БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

3 верасня 1994 г.
Субота
№ 96(13813)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года


У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК



## Свята, якое заўсёды з намі

*Працягваецца свята беларускага пісьменства і друку. Яно адзначаецца ўрачыстымі вечарынамі, багатымі выставамі, якія выклікаюць цікавасць у людзей.*

*Сёння ў Сафійскім саборы ў Полацку пройдзе канцэрт камернага хору. А ў Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання адбудзецца "круглы стол" па праблемах нацыянальнага кнігавыдання. Заўтра старажытны Нясвіж будзе вітаць рэспубліканскае свята паэзіі. А ў нядзелю ў мінскім парку імя Горкага пройдзе фестываль беларускай прэсы.*

Фота Сяргея БРУШКО.

## Работнікам культуры і друку, творчай інтэлігенцыі Беларусі

Сёлета наша дзяржава ўпершыню адзначае Дзень беларускага пісьменства і друку. Гэта не толькі прафесійнае свята працаўнікоў сферы культуры, але і наша агульнанацыянальнае свята. Пісьменства і друк — неад'емная частка нацыянальнай культуры, духоўнага жыцця грамадства.

Беларусь мае багатую духоўную спадчыну, валодае вялікім навуковым і культурным патэнцыялам. Нам ёсць чым ганарыцца, ёсць на чым будаваць новае жыццё. Наш шлях у будучыню асвятляюць імены Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, многіх іншых выдатных сыноў і дачок Бацькаўшчыны.

Старонкі сучаснай гісторыі і культуры Беларусі пішуцца сёння руплівай працай народа, дасягненнямі творчай думкі. Нягледзячы на ўсе цяжкасці пераходнага перыяду, мы лічым культуру, кнігавыданне, перыядычны друк важнейшымі накірункамі дзяржаўнага будаўніцтва. Мы разлічваем на актыўны ўдзел у рэфармаванні грамадства, у нацыянальна-культурным адраджэнні ўсіх атрадаў творчай і навуковай інтэлігенцыі.

Сардэчна віншуем вас са святам — Днём беларускага пісьменства і друку.

Прыміце мае шчырыя пажаданні моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту, новых творчых набыткаў на карысць роднай Беларусі.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА,**
**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.**
**2 верасня 1994 г.**

# Кур'ер "ЧЗ"

## Здзек са святыні

*Стаяў звонкі жнівеньскі поўдзень, калі і сонца, і дрэвы, і травы спяваюць на зыходзе лета гімн вечнасці прыроды. Нішто, здавалася, не магло азмрочыць у такія мінуты ўзвышанага настрою ўдзельнікаў навукова-творчай экспедыцыі "Дарога да святыняў", прысвечанай святкаванню Дня беларускага пісьменства і друку. Мы прыбылі па намечанаму маршруту ў вёску Крошын, каб сустрэцца з вучнямі і настаўнікамі мясцовай школы, якая носіць імя іх славутага земляка Паўлюка Багрыма, ды пакланіцца магіле народнага песняра.*

У школьным музеі рамёстваў і быту ўсё дыхае памяццю пра юнага бунтара, паэта і каваля-умельца. Тут захоўваюцца некаторыя яго работы па металу — застылыя карункі ненапісаных паэм. Стары і малы прыходзяць сюды па натхненне, па казку... І твары людзей, якія нас сустракалі, былі адзначаны гэтай духоўнасцю.

Але, быццам нечаканы ўдар з-за вугла, — вестка аб вандалізме на мясцовых могілках. Мы паспяшаліся да запаветнай магілы і ўбачылі, што менавіта яна аказалася зняслаўленай: узведзены пяць гадоў назад медны помнік Паўлюку Багрыму разграблены. З магілы вынесены ўмела выкаваныя з медзі кветкі... Нас не цікавіла, ці за трыццаць срэбранікаў прададуць выкрадзенае сучасныя Іуды, нас уразіла, што Баранавіцкая пракуратура не ведае, калі адбылося аграбленне, і нават не завяла справы па такому абуральнаму факту!

Адразу ўсё паблякла вакол: ужо не адбівалася ў нашых душах ззянне дня, не спявалі чароўныя птушкі натхнення... Горкая чаша адчаю выпіта да дна. Аднак менавіта яна прыдала ўдзельнікам экспедыцыі рашучасці нястомна ісці далей маршрутамі народнай культуры і несці сваю місію духоўнасці і асветы па ўсіх дарогах, якія вядуць у храмы душ чалавечых.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, кар.БЕЛІНФАРМа, удзельнік экспедыцыі "Дарога да святыняў".**

## Прэзідэнт будзе падтрымліваць інтэлект

*1 верасня з нагоды агульнага свята — Дня ведаў — прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прафесарска-выкладчыцкім саставам і студэнтамі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.*

Прэзідэнт выказаў некаторыя канцэптуальныя палажэнні, якія датычаць вышэйшай школы адукацыі і інтэлектуальнага стану грамадства ў цэлым. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ён мае намер падтрымліваць інтэлект грамадства, але проста так, падкрэсліў ён, нічога не даецца, таму будзе і адпаведнае патрабаванне. Прэзідэнт адказаў на шэраг пытанняў, якія датычылі ў асноўным праблем матэрыяльнага і сацыяльнага забеспячэння студэнтаў, у прыватнасці, адсутнасці і дарагоўлі жылля, нездавальняючага медыцынскага абслугоўвання студэнтаў. Былі таксама ўзняты пытанні, звязаныя з беларускай мовай, стажыроўкай спецыялістаў за мяжой.

**БЕЛІНФАРМ.**

## Бронзавы бюст – дыпламату

*Бронзавы бюст першаму рускаму консулу ў Японіі беларусу Іосіфу Гашкевічу ўрачыста адкрыты ў пасёлку Астравец, дзе некаторы час жыў дыпламат. Падзея прыўрочана да святкавання Дня беларускага пісьменства і друку.*

На пастаменце на беларускай, рускай і японскай мовах напісана імя і прозвішча вядомага дыпламата, а таксама годы яго жыцця. Іосіфу Гашкевічу, які быў таксама даследчыкам і буйным вучоным-філолагам — аўтарам першага японска-рускага слоўніка і шэрага навуковых прац, прысвечана экспазіцыя ў бібліятэцы мясцовай вёскі Малі, дзе знаходзіўся маёнтак, які належаў роду Гашкевічаў. Сабраныя тут кнігі, фатаграфіі, копіі розных дакументаў, большасць з якіх паступіла з Масквы ад даследчыка Віталя Гузанава, з цягам часу складуць аснову мемарыяльнага пакоя-музея дыпламата.

На ўрачыстым адкрыцці помніка прысутнічалі жыхары пасёлка і навакольных вёсак, супрацоўнікі расійскага і японскага пасольстваў у Беларусі, госці з Мінска.

## Камунальная маёмасць – з малатка

*За мінулыя 7 месяцаў Брэсцкі гарвыканкам сумесна з Міжнароднай фінансавай карпарацыяй правёў шэраг аўкцыёнаў, на якіх былі прададзены аб'екты на агульную суму 4295 млн.рублёў.*

На апошнім аўкцыёне было прададзена 8 магазінаў і адзін рэстаран, а таксама права на арэнду двух памяшканняў. Атрыманая сума склала 8930 млн.рублёў і перавысіла аб'ёмы папярэдняга аўкцыёну ў 3 разы.

Большасці прададзеных аб'ектаў змена ўласніка пайшла на карысць: палепшыўся іх знешні выгляд і інтэр'ер, пашырыўся асартымент тавараў і паслуг, палепшылася якасць абслугоўвання.

Чарговы аўкцыён у Брэсце адбудзецца 14 верасня. На ім плануецца выставіць аб'екты як гарадской, так і абласной камунальнай маёмасці.

Нядаўна прайшоў першы аўкцыён у Кобрыне. На яго было выстаўлена 10 аб'ектаў: два магазіны, адно кафэ, 4 кіёскі, 4 свабодных памяшканні і адзін аб'ект незавершанага будаўніцтва.

Аўкцыён прынёс гарадской казне 1226,8 млн.рублёў.

**Святлана КУЛІКОВА.**

## Па малаку ног не павалаку

*На аптэкарскіх вагах дзялілі на Лепельшчыне партыю камбікармоў, якая была накіравана ў гандаль, паводле слоў прэзідэнта, для таго, каб не скармлівалі жывёле хлеб. Мяркуйце самі, камбікорм тут выдавалі толькі за здадзенае малако і па... 45 грамаў за літр.*

Цікава, каму прыйшла ў галаў такая "геніяльная" ідэя рэалізацыі гэтай прадукцыі? Думаецца, не прэзідэнту. Дарэчы, а што рабіць курам і свінням, якія, на няшчасце, не дояцца? Мабыць, працягваць есці ўжо дарагі хлеб.

## Старасць трэба паважаць

*Шэраг рашэнняў, якія хоць крыху падсалодзяць нялёгкае жыццё пажылых людзей, прыняў нядаўна Бешанковіцкі райвыканкам.*

Прадугледжаны дадатковыя льготы і перавагі для гэтых людзей за кошт сродкаў мясцовага бюджэту, стварэнне фондаў сацыяльнай дапамогі, правядзенне камерцыйных мерапрыемстваў. Прадпрыемствам і арганізацыям рэкамендавана стварыць дамы-інтэрнаты для састарэлых.

**Уладзімір МІХНО.**

## Сямідзесяты... першы званок

*У мінскай школе-ліцэі № 16, як і ўсюды, у Дзень ведаў адбылося свята першага званка. А самы першы званок наогул прагучаў у гэтай старэйшай навучальнай установе 70 гадоў таму. 1 верасня гэтага года цяперашняму будынку школы споўнілася 30 год.*

Дырэктар школы Анатоль Лявонавіч Стук пажадаў шчаслівага плавання школьнаму караблю па моры ведаў і далей. Будынак сапраўды напамінае карабель з вельмі ўтульнымі, чыстымі, добра абсталяванымі класамі, кабінетамі-"каютамі". Нядаўна тут адкрыўся яшчэ адзін камп'ютэрны клас.

Вучням вельмі пашанцавала на настаўнікаў. Калектыў тут вельмі згуртаваны і творчы. Многія працуюць па 30 гадоў. І гэта дае плён: 90 працэнтаў вучняў паступаюць у ВНУ, каб потым ізноў вярнуцца ў родную школу — але ўжо настаўнікамі.

Адна з іх — Халецкая Кацярына Пятроўна — будзе вучыць першаклашак.

**Валянціна СКАРЫНКІНА.**

### Курсы валют на 2 верасня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 2812 | 2900 | 1776 | 1835 |
| "Дукат" | 2780 | 2870 | 1750 | 1830 |
| "Прыор" | 2850 | 2890 | 1800 | 1825 |

РЭПАРТАЖ У НУМАР

## Артыст шчаслівы і без грошай

*Калі на гарадскіх вуліцах раптам з'явіліся дзяўчынкі ў святочных школьных сукенках і хлопчыкі ў адпрасаваных сініх касцюмах, зрабілася зусім відавочна — настала восень. А разам з ёю распачаўся чарговы тэатральны сезон і, натуральна, заняткі ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Дзе, нагадаю, сёлета зноў быў самы вялікі абітурыенцкі конкурс.*

Сярод стракатага натоўпу студэнтаў тэатральнага факультэта было зусім няцяжка "пралічыць" першакурснікаў — па асабліва прыўзнятым настроі, падкрэсленай уласнай значнасці і незалежнасці. Яны ўжо атрымалі свае студэнцкія білеты, прадэманстравалі "калегам", на што здольныя, і цяпер збіраліся зноў наведаць Батанічны сад — як рабілі тое пасля кожнага ўступнага экзамену.

Карыстаючыся гэтым незанятым часам, я вырашыла пацікавіцца, як ім уяўляецца іхняя будучыня, калі, здаецца, усе мары, нарэшце, спраўдзіліся. Аказалася, што будучыня чакаецца вельмі суровая.

— Першыя два гады да нас будуць прыглядвацца, хто чаго варты, — паведаміў Валодзя Кампанеец з Радуні. — А потым, магчыма, з кім-небудзь і развітаюцца назаўсёды. Бо ёсць рэчы, якім яшчэ можна навучыць, а ёсць іншыя, "ад Бога". Але асабліва крыўдна будзе "вылецець" ні за што, таму, хутчэй за ўсё, прыйдзецца строга прытрымлівацца навучальнага плана. А што далей?.. Аблокі. Пратрымацца б гэтыя два гады, а потым пабачым.

У акадэмію Валодзя прыйшоў адразу пасля школы, але ўжо паспеў паспрабаваць сябе і ў бардаўскай песні, і ў маляванні, а вось цяпер... Апасенняў за будучыню ў яго дастаткова, хіба што адно не хвалюе наогул — матэрыяльнае пытанне: "Бацькі дапамогуць, буду эканоміць... Ды хіба гэта галоўнае?".

Сяргей Сахно пра рэжысёрскую спецыяльнасць марыў яшчэ два гады таму, калі спрабаваў паступіць на акцёра — "у рэжысёры" зусім юных не бралі, а Сяргей толькі скончыў школу. Але ў той раз нічога не атрымалася, і, хто ведае, ці не да лепшага? Для пісьмовага аналізу ён выбраў п'есу Чэхава "Дзядзька Ваня". Чаму — тлумачыць адмовіўся:

— Ведаеш, гэта вельмі доўгая гісторыя, і пачынаць трэба здалёк... Давай прасцей: выбраў таму, што проста добрая п'еса. На жаль, зараз людзям не да тэатра, яны іншым занятыя, думаюць пра іншае... Вось у 60-я — тады, сапраўды, часы былі! У тэатральныя інстытуты конкурсы ішлі па 300 чалавек. Але я ўпэўнены, што ўсё яшчэ вернецца. Не можа чалавек думаць адно толькі пра страўнік. Будуць і гледачы, і аншлагі... А я буду займацца тым, што мне на самай справе цікава. Добрым старым тэатрам. Вельмі "круты" авангард — гэта хутчэй шоу на вечар, а ёсць яшчэ вечнае... Зрэшты, ніколі не варта гаварыць пра ўсё разам, ёсць усялякія асобныя выпадкі.

Не буду і я гаварыць пра ўсіх разам. Пачакаем два гады...

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**







Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.


# ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

### "Еўраньюс"

## ЭКСПЕРТЫ Ў ІСЛАМАБАДЗЕ

*Перспектывы падключэння Пакістана да рэжыму кантролю за распаўсюджваннем ракетных тэхналогій абмяркоўвае ў Ісламабадзе дэлегацыя міжнародных экспертаў са Злучаных Штатаў, Швейцарыі, Францыі і Японіі.*

З дыпламатычных крыніц стала вядома, што другім пунктам перамоў будзе прапанова Ісламабада аб стварэнні ў Паўднёвай Азіі зоны, свабоднай ад ракетнай зброі.

## АХВЯРЫ ПАВОДКІ

*Не менш чым 90 чалавек сталі ахвярамі паводкі, выкліканай праліўнымі даждамі, у паўночна-ўсходняй кітайскай правінцыі Ляанін.*

### "Уорлднэт"

У зоне стыхійнага бедства ў агульнай складанасці апынуліся амаль 10 мільёнаў мясцовых жыхароў. Затоплена больш чым 1,3 мільёна гектараў пашавых угоддзяў.

## ЗАБОЙЦА ЛЮБІЦЬ ПЯЧЭННЕ

*У Чыкага адбылася чарговая драма. 11-гадовы падлетак на працягу дня параніў 16-гадовага хлопца, потым яшчэ аднаго і, нарэшце, забіў дзяўчынку.*

Паліцыя мяркуе, што гэта былі разборкі паміж "бандамі" малалетніх. Малады забойца калекцыяніруе чучалы жывёл і любіць пячэнне.

## "ІНДЫКАТАР-БУМЕРАНГ"

*Вядомы выканаўца рэпа Айс Ці заявіў, што выкананая ім песня "Забойца паліцэйскіх" з'яўляецца індыкатарам таго, наколькі сапраўдныя правы амерыканцаў на свабоду слова.*

### "TV-5"

Паліцыя прапанавала падаць на яго ў суд, вельмі агрэсіўна настроены і афіцыйныя ўлады. У рэшце рэшт кампанія гуказапісу скасавала з музыкантам кантракт.

## СМЕРЦЬ РЭЖЫСЁРА

*Ва ўзросце 71 года памёр сусветна вядомы англійскі кінарэжысёр Ліндай Андэрсан.*

Ён таксама быў кінакрытыкам, сам здымаўся ў фільмах. Найбольш вядомая яго роля настаўніка ў фільме "Вогненныя калясніцы".


(Працяг на 3-й стар.).

